Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ат 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
| --- | --- | --- |

№. 20 Вільня, Аўторак, 21-га верасьня 1926 г. Год I.

## Месца жанчыне!

З розных канцоў Заходняе Беларусі йдуць радасныя весткі, што ў будаваньні масавае, усенароднае беларускае арганізацыі працоўных прымаюць чыннае ўчасьце *беларускія дзяўчаты і жанкі.*

Факт гэты мае вялікую вагу. Жанчына ў нас дагэтуль займала як-быццам самае апошняе месца ў грамадзкім жыцьці. Бацькі неахвотна аддавалі дзяўчатак у навуку, лічучы, што дзеля таго, каб быць добрай гаспадыняй, грамата непатрэбна.

Але ў апошнія гады, пад уплывам агульнага прабуджэньня вёскі, збудзілася і беларуская жанчына. І над ёй ужо чэзьне тая цемра, у якой яна жыла цэлымі вякамі. Памалу, але бясспынна, крышацца тыя путы духовае няволі, у якой жанчыну так крэпка трымалі папы і ксяндзы. Будзіцца і ў жанчыны сьвядомасьць, што яна—такі-ж самы чалавек, як яе таварыш у працы і ў нядолі—мужчына. І ў яе будзіцца імкненьне да каваньня шчасьця свайго народу сваімі ўласнымі рукамі.

Далучэньне жанчын да гурткоў Грамады, чынная праца ў іх дзяўчат і жанок—вось доказ тэй вялікай перамены, якая сталася ў жаночай душы. І шчасьліва тая сям'я, у якой муж і жонка, брат і сястра поплеч становяцца ў рады барацьбітаў за свой народ і свой край!

Але гэта—ня ўсё. Жанчына, больш, чым мужчына, ад найменшых гадоў узгадоўвае дзяцей—гэную нашую будучыню, і ўжо з малалецтва падрастаючае пакаленьне можа набірацца ад матак сваіх або чорнага рэакцыйнага духу, што дагэтуль панаваў сярод клерыкальна настроеных жанок, або сьветлых ідэяў волі і змаганьня за яе, якія ўсё шырэй і шырэй прабіваюцца на прастор. Дык прабуджэньне грамадзкае і нацыянальнае сьвядомасьці сярод жанок—гэта залог таго, што новыя пакаленьні ўжо з малаком матак будуць убіраць у сваю душу ўсе тое сьветлае, высокае, што вядзе чалавецтва да сьвятлейшае будучыні.

*Дык больш месца беларускай жанчыне*! Дзе няма жанчын у гурткох, там іх трэба ўцягнуць. І яны пойдуць нага ў нагу з барацьбітамі-мужчынамі, будуць для іх добрымі таварышамі ў працы, ды ўзгадуюць новых байцоў за народную справу—годных наступнікаў сваіх бацькоў.

## Работнікі і Работніцы м. Вільні!

## Рыхтуйцеся да выбараў у КАСУ ХВОРЫХ!

## Наш сьпісак № 6.

## У Польшчы.

### Радавае агенцтва аб збраеньнях Польшчы.

Радавае агенцтва „ТАСС“ падае з „Известий“ артыкул, які, прыводзячы афіцыяльныя весткі польскага ўраду аб ваенных заказах, павялічэньні паветранага і марскога флёту, аб бясспынных нарадах Пілсудскага ў справе ваеннай прамысловасьці і г. д., раўнуе іх з заявамі польскіх дыпляматаў і запярэчаньнямі польскай прэсы... газэта сцьвярджае, „што польская дыпляматыя працуе паводле загадаў польскага Генаральнага Штабу“. „Абвяшчаючы на ўвесь сьвет аб мірных імкненьнях Польшчы, дыпляматыя аблягчае гэтым працу ваенных кругоў Польшчы“... Газэта піша далей, што, калі яшчэ нядаўна ваенныя падрыхтаваньні Польшчы мелі мэтай польска-літоўскую граніцу, дык цяпер яны пашырыліся і на польска-радавую. Газэта падае цэлы рад адзнакаў гэтай акцыі на радавай граніцы на польскім баку.

Гэткім чынам, заключае газэта, „афіцыяльныя заявы польскага ўраду разыходзяцца з тым, што робіцца ў запраўднасьці“.

### Канфлікт Польшчы з Гданскам.

Распачаліся перагаворы між Польшай і Данцыгам у справе падзелу даходаў з мытаў. Польская дэлегацыя заявіла, што сьпярша ўрад Данцыгу павінен выканаць цэлы рад варункаў, прынятых фінансавым камітэтам Лігі Народаў. Гэта выклікала ў месьце абурэньне проці Польшчы, якое выразілася ў вялікай проці-польскай дэманстрацыі. На дэманстрацыі быццам заклікалі „да вайны з Польшчай“. Так прынамся піша ПАТ, які сцьвярджае варожы да Польшчы тон данцыгскай прэсы.

### З кім лічацца, а з кім—не.

Урад, маючы выдаць у дэкрэтным парадку новы „прамысловы ўстаў“, склікае на канфэрэнцыю прадстаўнікоў „гаспадарчых сфэраў“, каб супольна абгаварыць справу, ды каб не пашкодзіць у чым інтарэсам паноў прамыслоўцаў.

А вось закон аб прэсе дык урад у „цішы канцэлярыі“ апрацоўвае сам, не запрашаючы прадстаўнікоў прэсы на нараду, — бо яшчэ наробяць крыку, ды, барані божа, абароняць інтарэсы прэсы.

## Уцякаюць ад пэпэсаўскае заразы!

(*Пісьмы ў Рэдакцыю*).

Паважаная Рэдакцыя! Просім зьмясьціць у Вашай газэце вось гэтае нашае пісьмо.

Мы ніжэй падпісаныя, былыя сябры П. П. С. (Польск. Парт. Сацыяліст.), пераканаўшыся, што гэтая партыя прадае інтарэсы сялян і работнікаў польскай буржуазіі і капіталістам, з якімі разам галасуе ў сойме за асадніцтва на нашых землях, ды ўсе стараньні свае пакладае, каб ня даць нашаму беларускаму селяніву школы ў роднай мове, а кіраўнікі ППС прадаюць працоўных дэфэнзыве, як гэта робіць тайны „таварыш“ Махай і др.,—выступаем з гэтай партыі і ўступаем ў сваю Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду, якая правільным шляхам бароніць сялян і работнікаў.

Няхай жыве Сялянска-Работніцкая Грамада!

Няхай жыве Саюз працоўных усіх краёў!

Старшыня **А. Макарчык.**

Сэкрэтар **П. Макар.**

В. Хомічы, Казлавецкай гм.,
Слонімскага пав.

Пав. Грам. Рэдактар! Не адмоўце зьмясьціць наступное.

Мы ніжэй падпісаныя былыя сябры Польскай Партыі Сацыялістычнай (П. П. С.) выступаем з гэтай партыі, бо яна

1) пайшла на згоду з абшарнікамі,

2) замест таго, каб бараніць працоўных, сама прадае нашых сялян у рукі дэфэнзывы,

3) разам з фашыстамі і іншымі чорнасоценскімі арганізацыямі выступае проці работніцкага руху і расстрэльвае работнікаў, як гэта было сёлета 1 мая ў Варшаве,

4) замест дамагацца зямлі сялянам бяз выкупу, галасавала ў Сойме разам з абшарнікамі за тое, каб зямля засталася ў паноў, і каб пасьлаць на нашы землі асаднікаў і калёністаў, якім аддаюць нашую зямлю,

5) замест таго, каб бараніць інтарэсы работнікаў, сама-ж стараецца зламаць забастоўкі, пайсьці на ўгоду і г. д.

Дзеля гэтага мы выступаем з П. П. С. і ўступаем у сваю партыю, Белар. Сялянска-Работ. Грамаду, якая шчыра змагаецца разам з намі за нашы правы, за лепшую нашу будучыну.

Хай усе чэсныя сябры пэпэсаў пойдуць за нашым прыкладам!

Няхай жыве Бел. Сял.-Раб. Грамада!

Няхай жыве згода сялян і работнікаў!

Няхай жыве Сялянска-Работніцкі Урад!

**Лой Захар, Шупеніч Амяльян, Шупеніч Якім, Поўх Андрэй, Пятрчук Лой.**

(Сяляне в. Тулятын. Ставэцкай гм., Пінскага пав.).

## Да 20-лецьця беларускае прэсы.

(*Жменя цыфр*).

У сувязі з 20-летнім юбілеем беларускае прэсы гожа падаць жменю даных аб тым, скольки-ж і дзе выходзіла за гэты час часопісаў рознага тыпу ў беларускай мове.

Агульная лічба часопясяў (газэт, журналаў), ня лічачы некаторых у Радавай Беларусі, якіх нам атрымаць не давялося, — дасягае 119; лічба аднаднёвак—каля—35.

Па тыпу найбольш аказваецца **тыднёвікаў**; далей ідуць часопісі, выдаваныя **двойчы і тройчы ў тыдзень**; пасьля—**месячнікі**; урэшце — **штодзенныя.** Лічба штодзенных—6: у Менску—Белар. Шлях (1918), Сав. Беларусь; Раб.-Сял. Беларусь, Звезда (ў расейскай і беларускай мове); у Вільні — Белар. Думка (1919 г.); у Горадні—Беларускае Слова (1920 г.). Цяпер выходзяць толькі 3 ў Менску.

Найбольшай лічбай часопісаў можа пахваліцца **Вільня:** тут было ажно 56 часопісаў, ды 31 аднаднёўка. Чароднае мейсца займае **Менск** з 25 часопісямі (у тым 4 перанесены з другіх мест). Далей ідуць: Горадня — 7 часопісаў; Пецярбург, Прага, Коўна—па 6 часопісаў; Радашкавічы, Дзьвінск, Рыга—па 2 часопісі (Радашкавічы і Дзьвінск—вучнёўскія); Слуцк, Капыль, Люцын, Варшава, Кіеў, Масква, Лодзь (аднадн.), Бэрлін—па 1, ды 1 часопісь выдавалася пры балахоўскай арміі.

Да вайны лічба часопісаў была вельмі малая: у Вільні—6, у Менску—2, у Пецярбурзе—2, у Капылі—1,—усяго разам 11. Шыбкі разрост часопісаў у беларускай мове прыпадае на пэрыяд ад марцовае Рэвалюцыі ў Расеі 1917 году.

Але голыя цыфры не заўсёды могуць даць правільны абраз стану нашае прэсы. Справа выясьніцца, калі праанелізуем гэтыя цыфры, прыкладам, для Вільні.

З усяе лічбы 56 часопісаў, якія выходзілі ў Вільні, у гэты мамэнт бачым тутака толькі 7: Народная Справа, Бюлетэнь Бел. Сял.-Раб. Грамады, Маланка, Сялянская Ніва, Biełaruskaja Kryniса, Студэнцкая Думка, урэшце — дэфэнзыўнае Беларускае Слова. Ня лічачы студэнцкага органу і гумарыстычнае „Маланкі“, пяць астаўшыяся часопісі выяўляюць зусім розныя ідэалёгіі: Нароеная Справа і Бюлетэнь—ідэалёгію Бел. Сял.-Раб. Грамады, Сялянская Ніва—так-званага „Сялянскага Саюзу“, Biел Kryniса—хадэкаў (клерыкалаў) і Белар. Слова—„полёнофілаў“ дэфэнзыўнага гатунку. Вось-жа кірунак „Народнае Справы“, які скрысталізаваўся ў апошнія часы ў партыю „Бел. Сял.-Раб. Грамада“, быў прадстаўлены дагэтуль 22 органамі, зачыненымі адзін па адным уладай, ды блізу трыдцацьма аднаднёўкамі. Толькі ад канца 1922 году былі сканфіскаваны каля 60 нумароў часопісаў гэтага кірунку, ня лічучы аднаднёвак, з якіх блізу палова таксама папала пад канфіскацыю.

У Горадні няма ніводнае беларускае часопісі: дзьве іх былі зачынены польскай уладай (Родны Край і Беларускае Слова), рэшта зьлiквідавалася ці то пры зьменах улады, ці дзеля другіх прычын.

Па зьместу пераважаюць палітычныя часопісі. іх—84 (70 проц.), дый усе аднаднёўкі належаць сюды: Літэратурна-мастацка-грамадзкіх—12 часопісаў; моладзі і для моладзі—11, студэнцкіх—5. Гумарыстычныя—4. Сельска-гаспадарскія—3.

Сярод палітычных часопісаў пераважае кірунак селянска-рабстніцкі—радыкальны сацыяльна і палітычна. Клерыкальных часопісаў бачым чатыры (цяпер выходзе адна). З палітычных часопісаў, выдаваных польскімі партыямі, былі 2 (Зорка ў Менску — „Стражы Крэсовай“ і Вызваленьне ў Вільні—партыі таго-жназову). З так-званых „полёнофільскіх“ у дэфэнзыўным духу (2 ў Горадні, 2 ў Вільні) асталася толькі адна ў Вільні (Белар. Слова).

Уканцы цікаўна адзначыць істнаваньне цэлага раду нелегальных беларускіх часопісаў: да вайны — у Капылі (Вольная Думка), у апошнія гады—у Заходняй Беларусі (Вясковы Пралетары, Чырвоны Сьцяг, Бальшавік—у 2-х выданьнях).

Вучнёўскія часопісі выходзілі пераважна гэктаграфаваныя; сярод гумарыстычных даваеннага часу бачым і рукапісныя (Самасейка і інш.); пісалася рукой і капыльская Вольная Думка, рэдагаваная Цішкай Гартным, як самастойны літэратурны дадатак да падпольнага расейскага „Голаса Ніза“.

# Заграніцай.

## НОВАЯ РАДА ЛІГІ НАРОДАУ.

У чацьвер, 16 верасьня, на агульным сабраньні Лігі Народаў адбыліся выбары сяброў Рады Лігі на нясталыя мейсцы. Гэтак—побач з сталымі сябрамі Рады Лігі: Англіяй, Францыяй, Італіяй, Японіяй і Нямеччынай, — у склад Рады ўвайшлі: на 3 гады—Польшча, Румынія, Чылі; на 2 гады—Галяндыя, Калюмбія і Кітай, на 1 год — Бэльгія, Чэхаславакія і Сан-Сальвадар.

Польшчы прызнана права быць выбранай на новае трохлецьце цераз 3 гады.

## Канец вайсковага бунту ў Гішпаніі.

Прымо-дэ-Рывэра перамог паўстаўшыя войскі. Галоўны павадыр бунту артылерыстаў засуджаны на кару сьмерці, якую кароль замяніў яму на вечны вастрог. Многа афіцэраў засуджаны на даўгалетні вастрог.

## Ваяўнічая прамова Мусоліні.

Мусоліні, цудам ацалеўшы ад бомбавага замаху, сказаў да „народу" вельмі „гарачую" прамову, у якой пагражаў сьмяротнымі карамі ўсім ворагам яго асобы і фашызму, ясна намякаючы, што іх шмат за граніцай, а перадусім — у Францыі, з якой прыбыў і апошні замаховец.

Уся фашыстаўская прэса страшэнна лае і бэсьціць Францыю ў сувязі з замахам. Французская прэса вельмі абурана на гэта, ды напамінае, што калісьці італьянскі анархіст забіў французкага прэзыдэнта Карно, але тады французская прэса не вінавуціла Італіі.

## Францыя мае адклікаць свайго пасла з Масквы.

У газэтах пішуць, быццам францускі ўрад мае адклікаць з Масквы свайго пасла, ня веручы ў магчымасьць дагаварыцца з Радамі ў справе сплаты царскіх даўгоў. Радавая прэса тлумачыць гэта ўплывам ведамага ворага Радаў п. Пуанкарэ, які гэткім чынам хоча націснуць на Радавы Урад.

## Канфлікт Чанг-Тсо-Ліна з ССРР завастраецца.

Падтрымліваны Японіяй і Англіяй Чанг-Тсо-Лін папросту правакуе Радавы Урад да вайны. Захапіўшы ўсю Усходня-Кітайскую чыгунку, якая, паводле нядаўна адноўленага трактату з Кітаем, зьяўляецца ўласнасьцю ССРР, — Чанг-Тсо-Лін не зварачае ніякай увагі на пратэст радавага ўраду. Дык у апошняй ноце Чычэрын заявіў, што ССРР ня будзе спакойна і бясчынна глядзець на гэткае ламаньне сваіх правоў пекінскім урадам, які фактычна спаўняе толькі загад Чанг-Тсо-Ліна.

## Ахвяры англійскай бамбардыроўкі.

Як ведама, Англія, не дачакаўшыся супольнай „карацельнай экспэдыцыі" ў Кітай, пачала сама з ім запраўдную вайну. Кроў ліецца ракой. У часе аднэй толькі бамбардыроўкі з англійскага ваеннага карабля кітайскага места Тсап-Сэн забіты і ранены больш 2.000 кітайцаў, не разьбіраючы вайсковых ад цывільных.

## За злучэньне Аўстрыі з Нямеччынай.

У цэлым радзе нямецкіх і аўстрыйскіх местаў адбыліся вялізарныя дэманстрацыі, на якіх прыняты рэзалюцыі аб злучэньні Нямеччыны з Аўстрыяй.

# „Панурая ўлада".

Пад гэткім загалоўкам варшаўская газэта „Kurjer Polski" надрукавала надовячы перадавіцу, пасьвячоную тэй фактычнай уладзе, якая гаспадарує ў Польшчы—зусім незалежна ад таго ці іншага ўраду, істнуючага ў даны мамэнт. Гэта — **ўлада паліцыі.**

„Наша паліцыя здаўна ўжо ня цешыцца добрай славай", піша газэта,—„апошнія-ж выпадкі і прэсавыя рэвэляцыі дарэшты панізілі яе павагу ў вачах грамадзянства".

„Дзе-ж прычына гэтага зла?" — пытаецца газэта. І вось, які дае на гэтае пытаньне адказ.

„Найвялікшае зло крыецца глыбака ў сыстэме і прывілеях, якімі карыстаецца паліцыя ў дзяржаўным апараце. Яна зьяўляецца ня чыньнікам улады ў грамадзянстве, ня органам дапамогі гэтаму грамадзянству, а **крыніцай страху і вечных пагрозаў для грамадзяніна**, які хіба не заўсёды бывае ліхадзеем, ды часта патрабуе ня кары, а апекі. Улада гэта запраўды-ж панурая, датаго й кампрамітуючая. Далей нягоднасьць усяе сыстэмы выяўляецца ў непанятных **прывілеях і самастойнасьці паліцэйскіх уладаў**, якія выкручваюцца ад усялякага кантролю, а гэта вядзе проста да **надужыцьцяў і да самавольства**. Гэтак разьвіваецца **бяскарнасьць**, якую ўжо меў адвагу заклеймiць польскі сатырык яшчэ ў XVI сталецьці, пішучы: „**Вялікія зладзеі вешаюць малых....**"

„Выкрыцьце вельмі дасьціпнае арганізацыі варшаўскае сьледчае паліцыі („працаваўшае" ў суполцы з... зладзеямі і бандытамі, як выкрыў „Głos Prawdy"!) дагэтуль жыва абгаварваецца ў шырокіх колах сталіцы. Але на наш пагляд гэта толькі нявінная забава, раўнуючы **з агідным фактам забойства с. п. Вінклера** ў арыштце ў львоўскай паліцыі. **Зьверскае, трываўшае рад дзён катаваньне нявіннага ў істоце чалавека**, які пасьмеў абразіць піўшага паліцэйскага падкамісара, робленае **жаўнерамі і ўрадоўцамі паліцыі**, гэта-ж рэч запраўды больш, чым **ганебная**,—тым балей, што стыдлівае афіцыяльнае паведамленьне ў гэтай справе не запярэчыла папраўдзе ніводнага закіду, не апраўдала і не ачысьціла нікога".

Так піша аб польскай паліцыі не абы-якая „выврoтовая" газэта, а адзін з органаў ярка буржуазных....

---

Грашавыя складкі за гэты 1926 год павінны быць ўнесены кожным сябром Грамады ў касу сваей мяйсцовай арганізацыі не пазьней 31./X. (кастрычніка) г. г. Камітэты Гурткоў павінны дапільнаваць гатага і правесьці ў жыцьцё. Дзе магчыма правесьці гэта раней, тым лепш.

У тых паветах, дзе не сарганізаваны яшчэ Павятовыя Камітэты Грамады, Камітэты мяйсцовых Гурткоў паступаюць згодна з § 31 Арганізацыйнага Статуту і § 11 інструкцыі, г. зн. палову ўсіх сабраных складак безадкладна высылаць Цэнтральнаму Камітэту ў Вільню на імя Цэнтральнага Сэкрэтарыяту, а другую палову пакідаць у сваім Камітэце.

У тых-жа паветах, дзе ўжо выбраны і працуюць Павятовыя Камітэты Грамады, мяйсцовые Камітэты кожнага Гуртка, пакідаюць палову складак намейсцы, другую палову зараз-жа павінен адаслаць Павятоваму Камітэту.

Кожны Павятовы Камітэт Грамады з атрыманых ад Камітэтаў Гурткоў свайго павету складак (50 проц.), палову іх (г. зн. ужо 25 проц.) адсылае безадкладна Цэнтральнаму Сэкрэтарыяту Грамады на выдаткі Цэнтральнага Камітэту, а другія 25 проц. пакідае ў сваей касе на выдаткі, зьвязаныя з працай Павятовага Камітэту.

Ад новапаступаючых сяброў трэба браць дэклярованую складку за гэты год адразу пры выдачы партыйнага білету.

**Цэнтральны Сэкрэтарыят Белар. Сялян. Работ. Грамады.**

# ВЫЯСЬНЕНЬНЕ.

Беларускі Каапэратыўны Банк даводзіць да ведама сваіх сяброў, што Банк даючы пазыку пад вэксэль зьвязаны гэтакім **правам**, што калі даўжнік да 12 гадзіны наступнага дня апошняга сроку сплаты па вэксэлю — не аплаціць вэксэля, то Банк **мусіць** протэставаць вэксэль; — напр. апошні срок сплаты па вэксэлю 20 якось месяца, то, калі вэксэль не аплачаны да 12 гадз. 21 таго-ж месяца,—банк **мусіць** пратэставаць яго. А за пратэст і другія расходы даўжнік мусіць плаціць у залежнасьці ад сумы ад 5 да 10 зл.

Як відаць з вышай паказанага, сяляне ня прытрымліваючыся гэтага права, часта наражаюцца на страты, а Банк памагчы гэтаму ніяк ня можа.

Каб перасьцерагчы сялян ад непатрэбных страт, Банк паведамляе,—загадзя старацца ўрэгуляваць справу вэксэля. Хто ня можа заплаціць у срок,—хай загадзя зьвернецца да Банку ў гэтай справе.

---

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

# З жыцьця „Грамады".

## НОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

У ніжэйпаданых мяйсцовасьцях з'арганізаваліся новыя Гурткі і выбраны Камітэты Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады:

290. 6./VIII. у в. **Цапра**, Грыцэвіцкае гм., Нясьвіжскага пав.
291. 7./VIII. у в. **В.-Мервіны**, Грыцэвіцкае гм., Нясьвіжскага пав.
292. 5./VIII. у в. **Цясноўка**, Грыцэвіцкае гм., Нясьвіжскага пав.
293. 5./VIII. у в. **Запольле**, Грыцэвіцкае гм., Нясьвіжскага пав.
294. 4./VIII. у в. **Сабачкі**, Грыцэвіцкае гм., Нясьвіжскага пав.
295. 8./VIII. у в. **Бабаевічы**, Клецкае гм., Нясьвіжскага пав.
296. 6./VIII. у в. **Вароніна**, Грыцэвіцкае гм., Нясьвіжскага пав.
297. 8./VIII. у в. **Дуначыцы**, Сіняўскае гм., Нясьвіжскага пав.
298. 15./VIII. у в. **Калечполе**, Пліскае гм., Дзісьненскага пав.
299. 19./VIII. у в. **Карасі**, Празароцкае гм., Дзісьненскага пав.
300. 10./VIII у в. **Казяны**, Багінскае гм., Браслаўскага пав.
301. 15./VIII. у в. **Пента**, Багінскае гм., Браслаўскага павету.
302. 15./VIII. у в. **Тучына**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.
303. 29./VII. у в. **Угрынё-Малое**, Дэрэчынскае гм., Слонімскага пав.
304. 15./VIII. у в. **Быч**, Косаўскае гм., Косаўскага павету.
305. 17./VIII. у в. **Лясок**, Карэліцкае гм., Навагрудзкага пав.
306. 22./VIII. у в. **Гародзіца**, Крывіцкае гм., Вялейскага пав.
307. 22./VIII. у в. **Перадолы**, Пліскае гм. Дзісьненскага пав.
308. 14./VIII. у в. **Гарэвічах**, Гарадэчанскае гм., Навагрудзкага пав.
309. 19./VIII. у в. **Клімовічах**, Старавескай гм., Слонімскага пав.
310. 22./VIII. у в. **Мілевічах**, Курылавіцкае гм., Слонімскага пав.
311. 22./VIII. у в. **Любачоўцы**, Лебядзеўскае гм., Маладэчанскага пав.
312. 22./VIII. у в. **Раманаўцы**, Сьвіслацкае гм., Ваўкавыскага пав.
313. 15./VIII. у в. **Грыбаўцы**, Галынскае гм., Горадзенскага пав.
314. 18./VIII. у в. **Голя**, Кастравіцкае гм., Слонімскага пав.
315. 22./VIII. у в. **Палесьсе**, Будслаўскае гм., Вялейскага пав.
316. 18./VIII. у в. **Засьценкі**, Іжанскае гм., Вялейскага павету.
317. 22./VIII. у м-ку **Падароск**, Ваўкавыскага павету.
318. 19./VIII. у в. **Сямерніках**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.
319. 15./VIII. у в. **Задзьвея**, Вальнянскае гм., Баранавіцкага пав.
320. 19./VIII. у в. **Шчанца**, Берштаўскае гм., Горадзенскага пав.
321. 22./VIII. у в. **Варанілаўцах**, Ражанскае гм., Косаўскага пав.
322. 22./VIII. у в. **Бакачах**, Ракаўскае гм., Маладэчанскага пав.
323. 22./VIII. у в. **Кісялі**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.
324. 22./VIII. у в. **Прытыкі**, Залескае гм., Дзісьненскага пав.
325. 19./VIII. у в. **Сточак**, Белавежскае гм., Бельскага павету.
326. 23./VIII. у м-ку **Лебядзеве**, Лебядзеўскае гм., Маладэчанскага пав.
327. 22./VIII. у в. **Харошчы**, Косаўскае гм., Косаўскага пав.
328. 19./VIII. у в. **Гасьцілы**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.
329. 22./VIII. у в. **Мётлы**, Язьненскае гм., Дзісьненскага пав.
330. 19./VIII. у в. **Навасёлкі**, Ракаўскае гм., Маладэчанскага пав.

**Камітэты Гурткоў працуюць што-дня.**

## У гуртках.

× Пасьля сходу гуртка Грамады ў вёсках Сівіцы і Яневічах, Беніцкай гм., Маладэчанскага пав., настрой сялян вельмі падняўся, і дружней пачалі зяпісвацца ў Грамаду. Не памагае тут і брахня — пастрахі панскіх падхлебнікаў, як Міхал і Піліп Дудкі.

× „Асьвечаныя" людзі, як Алесь Лазарэвіч, Язэп і Уладзік Сапліцы ў в. Мольнічы, Гарадэчанскай гм., Слонімскага пав., перашкаджаюць арганізацыйнай працы Бел. Сял.-Раб. Грамады, не зьмяшчаючы ў сваіх дурных галавах сэнсу і значэньня арганізацыі.

× Як ні моцна спала в. Запольле, Дубенскай гм., Горадзенскага пав., а цяпер адразу прыгарнулася да арганізацыі Грамады; залажылі сяляне там гурток, 28-га жніўня склікалі сход сяброў Грамады, дзе паміж іншым пастанавілі дапамагаць сваей газэце „Народная Справа" і залажыць бібліятэку.

## Павятовы Зьезду Грамады ў Косаве.

16 га верасьня адбыўся Зьезд Грамады Косаўскага пав. Прысутных было 527 асоб. З прамовамі выступалі паслы з Соймавага Клюбу Грамады Рак-Міхайлоўскі і Валошын. Справаздача аб зьездзе будзе зьмешчана ў чародным нумары.

## Адозва.

Навастворaны Гурток Грамады ў Шэнях заклікае ўсіх сялян і работнікаў, увайшоўшых за сяброў партыі Бел. Сял.-Раб. Грамады, закладаць Гурткі Грамады, бо толькі ідучы цеснымі радамі мы дачакаемся лепшае будучыні!..

*Гурток Грамады ў Шэнях.*

## Да ўсіх павятовых Камітэтаў і Гурткоў Грамады.

### У справе сяброўскіх грашавых складак.

Каб узмацаваць працу Грамады, як у цэнтры, так і на мяйсцох, патрэбна, каб сябры Грамады не адкладалі надаўжэй справы ўзносу свайму скарбніку сяброўскае грашавое складкі, якую кожны дабравольна ўстанавіў у сваёй дэкляраці пры ўваходзе ў Грамаду.

Маець пэўныя выдаткі Камітэт кожнае мяйсцовае арганізацыі Грамады, немалыя выдаткі змушаны несьці Павятовы Камітэт, а тым больш Цэнтральны Камітэт і Цэнтральны Сэкрэтарыят. Выдавецтва партыйных друкаў вымагае значных коштаў.

Усё гэтае змушае нас прыпомніць аб сяброўскіх грашавых абавязках тым сябром Грамады, якія яшчэ ня ў поўнай меры выканалі іх, або ня выканалі зусім.

# ХРОНІКА.

**Камісар Ураду на м. Вільню сканфіскаваў № 18 „Народнае Справы“ з 18-га верасьня — за прадрўжаньне стацьці „Польскі Танжэр“.**

**Характэрна, што стацьця абаперта цалком на галасох польскіх буржуазных газэт.**

**№ 19 „Народнае Справы“ з 19 верасьня сканфіскаваны камісарам ураду за зьмяшчэньне ў ім карэспандэнцыі: „З жыцьця Пружаншчыны“, „Проч з дарогі, здраднікі“ і „І маліцца не даюць“.**

**Госьці з Радавае Беларусі.** У Польшчу прыехалі з навуковымі мэтамі два культурныя беларускія працаўнікі з Радавае Беларусі: сябра Інстытуту Беларускае Культуры ў Менску грам. Некрашэвіч і доцэнт сельска гаспадарчае акадэміі ў Горы-Горках — грам. Гарэцкі (брат працаваўшага некалі ў Вільні пісьменьніка Максіма Гарэцкага). Грам. Некрашэвіч прыехаў дзеля навуковых досьледаў па мовазнаўству; грам. Гарэцкі—дзеля азнаямленьня з гаспадарчымі пытаньнямі.

Госьці нашы прабылі пару тыдняў у Варшаве, скуль у суботу 18-га верасьня прыехалі ў Вільню і прынялі ўчасьце ў сьвяткаваньні прэсавага юбілею. У нядзелю аглядалі Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча. У панядзелак адбылася нарада ў справе ўстанаўленьня аднолькавага правапісу для Заходняе і Усходняе Беларусі з учасьцем грам. Некрашэвіча

**Да выбараў у Касу Хворых у Вільні.** Сьпісак № 6, зложаны Бел. Сял.-Раб. Грамадой супольна з польскай і жыдоўскай лявіцай прафэсіянальных саюзаў, выстаўляе гэткіх кандыдатаў:

1) Мошуро Казімір (шавец);
2) Штрумпф Язэп (кравец);
3) Рэшатаў Уладзімір (друкар);
4) Олейнічак Вацлав (слёсар);
5) Дудка Янка (друкар);
6) Сегаль Юдэль (прыкашчык);
7) Свіла Эдвард (будаўляны);
8) Сьвятоха Янка (гутнік);
9) Філіповіч (гутнік).

Як бачым, першы раз выстаўляюцца ў Раду Касы Хворых работнікі-беларусы: Рэшатаў, Дудка, Сьвятоха і Філіповіч.

**Абмяжаваньне правоў моладзі.** Ёсьць весткі, быццам віленскі ваявода п. Рачкевіч выдаў загад адміністрацыйным уладам, каб „rozwiązywać“ (разганяць) усялякія сходы, дзе будзе большасьць моладзі, ня маючай поўных 18-ці гадоў. Што да палітычных мітынгаў, то, здаецца, на іх моладзь ня будзе дапускацца зусім. Гэта ў той час, калі закон аб гэтым нібы-та мае быць разгляданы ў Сойме.

Гэткім чынам моладзь будзе пазбаўлена права зьбірацца і наагул прыймаць учасьце ў грамадзкім жыцьці.

**Новыя кніжкі.** Выйшла з друку камэдыя **Я. Быліны** „Выбары Старшыні“ (выд. Крыніцы).

Друкуюцца: Літэратурная Хрыстаматыя для школ і Адрыўны Каляндар на 1927 год (Бел. Выд. Т-ва).

**Ілжывы данос польскіх „дэмакратаў“.** Орган польскіх „казённых дэмакратаў“—„Kurjer Wileński“, які, як ведама, сябруе з Павлюкевічам і друкуе ўсякую ягоную ілжу аб беларусах, — нязвычайна спалохаўся магутнага росту арганізацыі нашага сялянства пад сьцягам „Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады“. Разумеючы, што кармленьне розных наймітаў дэфэнзывы ня можа даць ніякіх вынікаў, бо народ іх зусім ня слухае, паны „казённыя дэмакраты“ шукаюць ратунку проці ўзрастаючае народнае сілы ...ў паліцыі, ды з гэтай мэтай рэдакцыя „Kur. Wil.“ у № 213 надрукавала **ілжывы данос на Грамаду**, быццам паміж легальнымі гурткамі Грамады і падпольнымі камуністычнымі ячэйкамі нямашака ніякае розьніцы... „Казённыя дэмакраты“ горка плачуць пры гэтым, што проці Грамады бяссільнымі аказваюцца і „больш умяркаваны“ так-званы „Сялянскі Саюз“ паноў Ярэміча і Рагулі, і ксяндзоўскія „хрысьціянскія дэмакраты“, якім не памагае навет тое, што і яны паўкладалі свае праграмы „паграмадаўску радыкальна“: сялянства ўсё роўна кідае іх і пераходзе да Грамады.

Аўтарам ілжывага даносу адкажам, што ні яны, ні паліцыя нас не запалохае! Засадзіць у вастрог **20.000 сяброў Грамады** і разьбіць **500 яе мясцовых арганізацыяў**—крыху ўжо трудна! З сваім ілжывым даносам „курвіленцы“ прыпазьніліся.

Самы факт выступленьня „Kur. Wil.“ мы разглядаем, як далучэньне паноў „дэмакратаў“ да адзіннага ўсепольскага проці беларускага фронту. Сцьвярджаючы бяссільле другіх беларускіх партыяў і прызнаючы гэтым за адзінага запраўднага выразіцеля настрояў масы—Грамаду, „курвіленцы“ стараюцца біць па Грамадзе, разумеючы, што гэта ўдары іменна па сьвядомай беларускай масе наагул!...

**Далейшыя няўдачы Павлюкевіча.** Ад часу зьезду, які так недагадзіў уладзе, „доктару“ Павлюкевічу зусім перастала ручыць. Грошы „апякуны“ больш не даюць. „Рада“ зусім развальваецца, бо, сьледам за грам. Аляхновічам, яе пакінуў і сьвяшч. Сакол-Кутылоўскі. Дык асталася там толькі „пара гнедых“ — шчырыя кумпаны: Павлюкевіч ды Якімовіч.

Цяпер ізноў газэты падаюць, што з ладжанага Павлюкевічам клюбу „Беларуская Хатка“ галоўнага ініцыятара як Павлюкевіча супольнікі яго зусім выгналі з сваей кампаніі. Куду-ж ён цяпер падзенецца?!

**Новыя арышты шпіёнаў у Вільні.** „Дзен. Віл.“ падае сэнсацыйную вестку аб тым, што ў Вільні і ў адным з паветаў Віленшчы арыштаваны цэлы рад „асоб, займаўшых адказныя становішчы на дзяржаўнай службе“, якія займаліся шпіёнскай работай на карысьць Расеі ці Літвы... Пачакаем, калі газэты пададуць прозьвішчы гэтых асоб: пэўна-ж—чыста польскія!...

**Афіцыяльны курс грошы на 20-га верасьня.** Даляр—8 зл. 94 гр. Залаты рубель — 4 зл. 81 гр.

20. IX. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 8,90. Зал. руб. 4,40. Чырвонец 44.

# Сьвяткаваньне 20-тых угодкаў беларускае прэсы.

Згодна з пастановай Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, сьвяткаваньне двадцацілецьця беларускае прэсы адбылося ўвечары 18 верасьня. На-жаль, з прычыны забароны віленскім куратарам выкарыстаць дзеля абходу салю Віленскае Беларускае Гімназіі, якая магла-бы зьмясьціць у сабе вялікшую лічбу публікі, Камітэтуладзіў абход у сваім уласным цесным памяшчэньні, абмяжаваўшы лічбу разасланых запросінаў да мінімума. Былі запрошаны выключна прадстаўнікі беларускіх культурных арганізацыяў і паасобныя дзеячы, блізка зьвязаныя з прэсай. Камітэт разаслаў запросіны такжа прадстаўніком літоўскага, польскага і жыдоўскага грамадзянства і прэсы.

Урачыстасьць распачалася кароткім уступным словам старшыні Камітэту, грам. Савіцкага, які выясьніў мэту сходу і прывітаў сабраўшыхся беларусаў і іх гасьцей, адзначыўшы першы выпадак учасьця ў грамадзкім абходзе ў Вільні такжа і прадстаўнікоў Радавае Беларусі ў асобах грам. Гарэцкага і Некрашэвіча, якія якраз у дзень сьвята прэсы прыехалі сюды з Варшавы.

Наступны прамоўца, грам. Луцкевіч, у кароткім рэфэраце нарысаваў абраз разьвіцьця беларускае прэсы. Дакладчык адзначыў, што ў працягу XIX і ў пачатку XX сталецьця, пакуль беларускі рух меў характар бадай выключна этнаграфічны, расейская і польская прэса ахвотна давалі месца стацьцям аб беларусах, пачынаючы з саракавых гадоў XIX ст. Пробавалі і самі беларусы тварыць сваю прэсу ў чужой мове, каб пашыраць свае палітычныя ідэалы сярод дэнацыяналізованай беларускай інтэлігенцыі. Найстэрэйшую спробу у гэтым кірунку прадстаўляе выдаваны ў 1884 годзе падпольны журнальчык (гэктаграфаваны) ў расейскай мове пад назовам „Гоман“, які быў выдаваны групай беларускіх рэвалюцыянэраў-народавольцаў. Калі рух — у пэрыяд Рэвалюцыі 1905 году — пачаў рабіцца масавым і набіраць палітычнага характару, дык адносіны чужое прэсы да яго зьмянілася. Аднача́сна выявілася патрэба мець такі орган прэсы, які магло-бы чытаць сялянства. У 1905 годзе Беларуская Рэвалюцыйная Грамада робіць першую спробу стварыць ізноў-жа нелегальную часопісь у беларускай мове — пад назовам „Свабода“. Аднак, з прычыны налёту паліцыі на дом, дзе друкавалася „Свабода“, увесь наклад часопісі быў зьнішчаны, ды так радыкальна, што не асталося навет ніводнае адбіткі для архіву.—Калі—з пачаткам рэакцыі ў 1906 годзе — падпольная праца ставалася ўсё цяжэйшай, дык на канфэрэнцыі Беларускае Сацыялістычнае Грамады ў Вільні—улетку 1906 году—па праекту Ів. Луцкевіча было пастаноўлена спробаваць выйсьці з падпольля на легальны грунт і распачаць выдаваньне беларускае газэты ў Вільні—пад назовам „Наша Доля“. Газэта гэная і выйшла ў сьвет 1/14 верасьня 1906 году, і гэты дзень для беларускае прэсы зьяўляецца запраўды гістарычным, — тым балей, што пры тагачасных варунках, пры адсутнасьці ўсялякіх беларускіх установаў і арганізацыяў (апрача падпольнае Грамады)—гэта быў адзіны шлях, па якім можна было дайсьці да народнае гушчы. Газэта і зрабіла гэта, узварухнуўшы масы беларускага сялянства і работнікаў і да сацыяльна-палітычных лёзунгаў Рэвалюцыі 1905 году далучыўшы лёзунг **нацыянальны**.

З прычыны ярка-рэвалюцыйнага духу часопісі расейская ўлада пачала перасьледаваць „Нашу Долю“, усьцяж канфіскуючы выходзіўшыя нумары. З агульнае лічбы шасьцёх былі сканфіскаваны пяць. Але ўсё-ж газэта разыходзілася па краю: з 10,000 экзэмпляраў першага нумару (друкаванага граждянкай і лацінікай) было разаслана па вёсках і дайшло да мэты 5,000, ды 3,000 за першы дзень распрададзены ў Вільні: пры канфіскацыі, загаданай назаўтрае пасьля выхаду газэты, паліцыя захапіла толькі 2,000 экзэмпляраў.

Пераканаўшыся у немагчымасьці вясьці далей у гэткім тоне легальную часопісь, арганізатары яе стварылі другую—„Нашу Ніву“, якая значна зьнізіла тон і мела характар больш культурніцкі. Ёй лепш пашэнціла: ад канца 1906 году яна выходзіла ў працягу дзевяцёх гадоў — ажно да эвакуацыі Вільні расейскім войскам ( — цяпер пад Польшчай нашы газэты жывуць прыблізна месяцы тры!). Характэрна, што за ўвесь гэты час здарыліся толькі тры канфіскацыі газэты, — дый толькі за адзін нумар рэдактар А. Уласаў быў пацягнены пад суд і засуджаны на два месяцы крэпасьці. Дзеля характэрыстыкі тагачаснага палажэньня, раўнуючы з цяперашнім, гожа падаць тыя словы, за якія рэд. Уласаў быў засуджаны: „Падыймаецца молат гневу народнага — пісала „Наша Ніва“,—і калі ён апусьціцца, дык ад усяго царскага ўраду мокрага месца не астанецца“! Цяпер за нешта падобнае ў адносінах да польскае ўлады судзілі-бы хіба ня так мягка, як у царскай Расеі!..

З гэтых дзьвюх пачынальніц і вырасла ўся сучасная багатая беларуская прэса (—падробныя даныя падаены на другім месцы). Роль яе ў беларускім адраджэнскім руху была вялізарная. Газэта сталася кузьняй беларускай мысьлі, у якой і выкоўваліся нацыянальныя ідэалы. Тут—і толькі тут!—мелі магчымасьць друкаваць свае творы беларускія паэты і пісьменьнікі. Газэта была магутнай сілай, якая будзіла зо-сну беларускія масы, разьвівала ў іх самадзейнасьць, кіравала імі на шляху да адраджэньня. І масы навучыліся разумець газэту, супрацоўнічаць з ёй,—навучыліся крытычна ацэніваць друкаванае слова і цяпер не даюць ужо ашукаць сябе розным панскім наймітам і правакатарам!..

Цяпер, калі беларускія масы пачалі арганізоўвацца ў сваю палітычную партыю—з дзесяткамі тысяч сяброў, яны самі ўтрымліваюць ужо сваю прэсу. І ў гэтым—моцная апора яе, магчымасьць яе служыць выключна інтарэсам беларускага працоўнага народу, не аглядаючыся ні на кага. У гэтым—залог яе далейшага расцьвету.

Пасьля дакладу грам. Луцкевіча былі прачытаны прывітальныя тэлеграмы і пісьмы. З прадстаўнікоў віленскага польскага грамадзянства прыслалі прывітаньні рэдактар „Przegl. Wileńsk.“ Людвік Абрамовіч і ведамы публіцыст і літэратар польскі Чэслав Янковскі. Грам. Абрамовіч гаварыў аб тым, з якім недаверыем да сілы беларускага адраджэнскага руху ён аднасіўся ў мамэнт выдаху Нашае Долі, і як неўспадзеўкі для яго гэты рух вырас на зьдзіў магутна. Пісьмо заканчывалась пажаданьнем, каб далейшыя 20 гадоў былі для беларускай прэсы ня мукай, а трыумфам. Грам. Янковскі высказаў свой шчыры жаль, што можа прывітаць беларусаў з іх сьвятам не ад імя польскае прэсы, а толькі ад свайго, ды ад даўно памершых пісьменьнікаў, імя якіх дарага для ўсяго нашага краю: ад імя Сыракомляў і Нарбуттаў, Ходзькаў і Адынцаў, Мацеёўскіх, Кіркораў, Каратынскіх... Бо часы зьмяніліся, астаўся толькі край той самы!

З Варшавы былі прысланы тэлеграмы ад д-ра Выгодскага (жыдоўскі прадстаўнік ў Сойме), ад рэдакцыі газэты „Trybuna“, ад Камуністычнае Фракцыі ў Сойме. У апошняй чытаем: „у дзень двадцацілецьця беларускае прэсы шлем Вам пралетарскае прывітаньне. Верым, што барацьба за поўнае сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне работнікаў і сялян, распачатая 20 гадоў назад „Нашай Доляй“ і ведзеная сяньня Вамі поплеч з усей работніцкай клясай Польшчы, скончыцца перамогай.—Пасольская Камуністычная Фракцыя: Пашчук, Прыступа, Скрыпа, Сахацкі, Варскі, Войцюк“.

З Варшавы прыслалі гарачае прывітаньне такжа студэнты беларусы. З Горадні—ад імя тамтэйшых арганізацыяў—грам. Якімовіч, які паведаміў, што ў Горадні сьвяткаваньне юбілею прэсы адбудзецца 19 верасьня.

Пасьля прачытаньня тэлеграмаў прамовіў адвакат Вітольд Абрамовіч — прадстаўнік польскае краёвае дэмакратыі, у шчырых словах вітаючы плады двадцацігадовае працы беларусаў і высказываючы надзею, што цяперашняе ліхалецьце праміне, і на груньце супрацоўніцтва для карысьці супольнага краю знойдуцца шлях і усіх яго народаў. За ім ад імя літоўскага грамадзянства гаварыў палітоўску і пабеларуску грам. Велецкі. Прадстаўнік жыдоўскае прэсы (газэты Тог), рэдактар Рэйзін, на абход спазьніўся і прыйшоў ужо пасьля зачыненьня сходу.

Пасьля прывітаньняў старшыня сходу грам. Савіцкі запрапанаваў ушанаваць уставаньнем памяць першага ініцыятара і арганізатара „Нашае Долі“ Івана Луцкевіча, што і было зроблена сходам. Партрэт Ів. Луцкевіча, прыбраны істужкамі, вісеў у салі абходу.

Сход закончыўся гэткім характэрным інцыдэнтам.

У часе сходу на аднэй з сьцен салі былі разьвешаны дзеля паказу блізу ўсе часопісі, у розных мейсцах выходзіўшыя ў беларускай мове ад 1906 году. Паміж імі былі: „Савецкая Беларусь“ (з Менску), „Большэвік“ (падпольну і аднадноўка „33“ (пасьвячоная справе беззаконнага вывазу за межы краю 33-ох беларускіх і літоўскіх культурных дзеячоў падчас існаваньня так-званае „Сярэдняе Літвы“), друкаваная ў Коўне. Усе гэтыя часопісі былі разьвешаны так, што відаць было **толькі назоў іх**, а тэксту прачытаць было немагчыма. Аднак-жа прысутныя прадстаўнікі пана Камісара Ураду на м. Вільню, ведамага сваімі варожымі адносінамі да беларусаў, дагледзілі ў гэтым... „крымінал“, ды загадалі **пазьнімаць** гэткія „праступныя“ рэчы, хаця **сход быў ужо зачынены**, і прысутныя якраз расхадзіліся. Гэта быў яўны зьдзек, ды так і зразумелі паступак прадстаўнікоў улады ня толькі беларусы, але і прадстаўнікі польскае дэмакратыі. Ня гледзячы на ўсю беспадстаўнасьць і бязмэтнасьць гэтага дамаганьня, прышлося яму падчыніцца...

Гожа адзначыць, што п. Камісар Ураду „прывітаў“ юбілей беларускае прэсы дзьвюма чарговымі канфіскацыямі нашае часопісі: № 18 з 18 верасьня і № 19 з 19 верасьня.

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар*!

У № 7 „Народ. Справы“ была надрукавана карэспандэнцыя аб тым, як пагранічныя салдаты ўначы капаюць нашу бульбу і расцягваюць нашае дабро.

Даведавеўшыся аб гэтым паручнік, „довудзца“ тутэйшага пагранічнага плютону напісаў нейкую паперку і з ею паслаў 29 жніўня капраля Бэндкоўскага зьбіраць падпісы.

Бэндкоўскі змусіў падпісацца дзесяцкага, а пасьля змушаў старых кабет і дзяцей, — тыя кажуць, што неграматныя, — дык крыжыкі загадаў ставіць;—ведама начальства, — баяцца бабы. Калі прасілі прачытаць, то „нéма часу“—адказаў.

А пасьля, сабраўшы падпісы сказаў, што гэта проці таго, што было напісана ў № 7 „Народ. Справы“, а таго хто напісаў пасадзяць у вастрог.

Мы ніжэй падпісаныя гэтым пісьмом сцьвярджаем, што ўсё, што было напісана ў № 7 „Нар. Спр.“, праўда, а цяпер Бэндкоўскі пад страхам і абманам зьбіраў падпісы.

(26 падпісоў—сялян в. Туркаўшчына, Ракоўскай гм., Стаўпецкага пав.).

**Ад рэдакцыі.** Хучэй сядзе ў вастрог той, хто гэтак зьбіраў падпісы, чым аўтар тое карэспандэнцыі. Рэдакцыя прозьвішчаў карэспандэнтаў не выдае.

# Карэспандэнцыі.

## Зробіш на ногаць, вырасьце на локаць.

(Вёска Зарудзічы, Беніцкай гм., Маладэчанск. п.).

У нашай вёсцы, як у благога пчаляра ў вульлі, завёўся гнілец. Якуб Быкоўскі і Даніла Ігнатовіч,—вясковыя недалепкі і псыхапаты, якія толькі і радзіліся, каб сьвет капціць, ды хлеб глуміць, даюць ілжывыя інфармацыі на пастарунку, чым толькі непакояць і насяленьне і ўладу.

Так у сераду 25/VIII. г. г., сабраліся 7 чалавек аматараў-артыстаў, якія думаюць на Коляды паставіць вечарыну; рэпэціравалі жарт „Зьбянтэжаны Саўка“ і „Пасланец“ Родзевіча.—За вакном нешта мітуснулася. Якраз ішоў Янка Савоська і другі хлапец і злавілі на „gorącym uczynku“ Данілу Ігнатовіча, як падглядаў і падслухіваў пад вакном.

Данілу запрасілі ў хату, бо на двары было сыравата і мог прахаладацца. Папрасілі згуляць ролю лёкая з „Пасланца“. Не адмовіўся. Праўда, гуляў „лякая“ нішто сабе, толькі быў змыдзганы і тросься, як ад трасцы, ды вінавата пазіраў з пад лоба на хлапцоў і дзяўчат. Пайгралі на іскрыпцы і мандаліне і разыйшліся па хатах.

Ігнатовіч, зрабіў данос на пастарунку, ды з рэпэтыцыі зрабіў нелегальны „сход“. Дык назаўтрае ў хаце Барбары Касьцюкевіч і Тафіля Салагуба зрабілі рэвізію. Нічога не знайшлі кôмпрамітуючага, апрача легальнай адозвы Бел. Сял.-Раб. Грамады. Дык Данілу Ігнатовічу за ілжывыя паказаньні „патрапалі морду“ і параўнялі прыкладам сьпіну.

На чорную дашку імёны Яшкаў і Донькаў! А за перакручваньне фактаў, як зрабіў Донька Ігнатовіч, трэба пацягнуць пад судовую адказнасьць, бо яшчэ і другіх людзей мучылі, дапытываючыся, ці былі яны на гэтым „сходзе“.

Так напр.: пацягалі колькі ўзезла, Юсту Ліс з вёс. Зарудзіч. Да яе пад'ехала сышчыца Надзея Яцэвіч і пачала дапытывацца і падпускаць лёстачкі, каб тая сказала, ці ня ведае, хто спаліў панскую абору з дабром. Юста Ліс па дурноце сваей нешта нейкае напляла, што нехта некуды пайшоў і некуды папоўз! Надзя Яцэвіч чырк і запісала ў паперку прозьвішча Юстачкі, да хто відзеў, ды хто казаў. Тут забралі яе на пастарунак, ды яшчэ і Васіля Лапыцьку ўмяшалі,—адным словам, заварылі гарох з капустай. Прывёўшы на пастарунак, і ў кабеціны дапытваліся, ці былі яе сыны на „zebraniu“? З кулакамі так і сунуліся, але ня было каго біць. Скура ды косьці!

**Васіль Юншык.**

## „Нашы вучыцялі“.

(В. Залесьсе, Маладэчанскага пав.).

Вучыцелем у нас у польскай школе паляк „конгрэсовец“. Дзе ён вучыўся, хто яго ведае, — і на што ён здатны, таксама трудна сказаць, — толькі не на вучыцеля.—Сам просьценькай задачкі не рашыць. А з дзяцьмі, — як зьвер: дзіця за вушы ды аб зямлю і нагамі б'е і г. п.

Вось—факт, які схарактэрызуе гэтага „вучыцеля“:

Раз прыехаў, ён з кірмаша, з Ракава п'яны як сьвіньня, ды за ноч не працьверазіўся. Дык назаўтра ў школе ў часе заняткаў на лаўцы заснуў. Ды так расхропся, што з носа паперла. Дзеці пачалі крычаць, гукаць, сьвістаць, але „вучыцель“ не прачхнуўся;—тады байчэйшыя і сьмялейшыя ўзялі памяло і пачалі абціраць нос свайму „ўзгадавацелю“.

Ці не даволі гэтага, каб мецъ панясьце, хто „вучыць“ нашых дзетак?!

**Парнаскі валацуга.**

## Паном не падабаецца граматнасьць.

(Горадачанская гм., Наваградзкага пав.).

У двары Макеўшчына служыць за пастуха Аляксандар Гарабей з в. Аленевічы.— Лёс змусіў быць пастухом, а ад прыроды ён бойкі і разумны хлапец, ды й чытаць добра ўмее. Раз набраў ён статуту Бел. С.-Р. Грамады, інструкцяў, газэты „Народная справа“ і др. ды, выгнаўшы кароў у поле, пачаў чытаць. Да яго другія падыйшлі пастухі—чытаюць, аж любата!

Надыйшоў пан Іван Якімец на гэтае чытаньне, дый накінуўся на „свайго“ пастуха: „што ты—рэдакцыю сваю адчыніў“? А пастух адказаў: „гэта не рэдакцыя,—рэдакцыя там, дзе ўкладаюць ды пішуць газэту“. Гэтая сьвядомасьць вельмі не спадабалася пану,—раскрычаўся, ды давай біць бізуном пастуха. „Данясу ў Навагрaдак,—кажа,—адразу ў вастрог запакуюць“.

На крык і плач пастуха зьбегліся людзі, а пан буяніць!

Не падабаецца паном, калі селянін можа чытаць, каб даведацца праўду! Таму і школы роднай беларускай нам не даюць. **Агнёў.**

## Нам пішуць з вёскі што:

× У в. Нізбодзічы, Ялоўскае гм., Ваўкавыскага пав., уначы 28./VIII. прыехаў тамашні войт з паліцыянтам і пазабіраў за падаткі апошнія рэчы ў сялян.

× Пэпэзсавец, прыехаўшы ў в. Цясоўка, Ялоўскай гм., Ваўкавыскага пав., каб завярбаваць сялян у сваю партыю, пусьціўся на подласьць — брахню; кажа: „маеце сэрвітут, вось, запішэцеся ў нашу партыю, дык адсуджу вам“!..

× 19-га жніўня ў в. Тамілавічах, Дзісьненскага пав., заступнік каманданта паліцыі № 1488 арыштаваў Андрэя Юдзенка за тое, што той зьбіраў падпісы за звальненьне палітычных вязьняў, і скаванага адаслалі аж у Глыбокае, дзе ў старостве, разгледзіўшы справу, звольнілі.

× 29-га жніўня ў м. Варанова, Лідзкага пав., адбыўся мітынг пасла Баліна з Незал. Парт. Хлопскай. Ахаракарызаваўшы сучаснае палажэньне ў Польшчы, пасол заклікаў сялян запісвацца ў Бел. Сял. Раб. Грамаду, або ў Нез. Пар. Хлопску.

× Да грам. Янкі Макоўскага і Мікалая Канапацкага з в. Залесьсе, Мамадэчанскага пав., чапляецца паліцыя і пагражае арыштам, як гэта было 28./VIII. толькі за тое, што яны выпісваюць і чытаюць беларускія газэты ды зьяўляюцца сьвядомымі беларусамі.

× У в. Пузавічы, Скідэльскай гм., Горадзенскага пав., Аляксей Сарлай, — памоцнік войта і кіраўнік польскіх школ, які ў сваім часе сабраў грошы ў сялян, каб ехаць дамагацца дзерава на адбудову ды тым і згарнуўся,—гэты Сарлай—цяпер, ліжучыся да паноў, агітуе проці Грамады і тармазіць арганізацыйную працу.

× Трэцяга ўжо сяляне в. Слабодка, Мірскай гм., Стаўпецкага пав., выбралі сабе солтыса, а стараста ні воднага не зацьвердзіў; той, што для народу добры, — старасьце не падабаецца. І гэта называецца самаўрадам!..

× Селяніна К. Скарбеня з в. Слабада, Мірскай гм., Стаўпецкага пав., за пасадку тытуну пакаралі на 10 злотых. Дык войт Адам Суднік за гэта засэквэстраваў апошнія парасяты, што заплаціў гаспадар 19 зл., і воз дроў варты 7 зл. Пры гэтым войт лаяў сялян камуністамі, бальшавікамі, брадзягамі і інш. за тое, што запісваюцца ў Грамаду. „Вы сабе,—кажа,—пішэце ў газэту аб нас, а мы будзем рабіць, што нам падабаецца“.

× У в. Забалоцьце, Карэліцкай гм., Наваградзкага пав., Мікалай Цехановіч з сынам сваім Мікалаем солтысам,—першы прыяцель паноў ды паліцыі. Поіць іх, увіхаецца, ды ліжацца. Гэтыя панскія прыхвасьні — вясковая ўлада — сялян душаць, а паном ліжуць рукі. Яны—першыя ворагі Грамады і пагражаюць сябром Грамады вастрогам і бізунамі. Але сяляне ня слухаюць гэтых панскіх цюцек і робяць сваё: арганізуюцца!..

× Як прыхаджане Бабровічаўскага прыходу Косаўскага пав., прасілі праваслаўную кансысторыю даць ім сьвяшчэніка, то не давалі, бо „няма там 3.000 асоб“,—а цяпер хтось прыслаў ксяндза—вуніята—і 3.000 ня трэба! Сяляне толькі сьмяюцца і да гэтага ксяндза ў царкву ня ходзяць.

# Паштовая скрынка.

**Грам. Малецкаму.** Не таму нашы карэспандэнты падпісваюцца псэўданімам, што ўстыдаюцца свае мовы ці народу,—а таму, што, падпісаўшыся сваім прозьвішчам, няхочуць мецъ перасьледаваньняў з боку паліцыі і іншага роду „ўлады на мясцох“. Вашы карэспандэнцыі: „аб псэўданімах“ і „Як шляхта задаецца“—не падходзяць. Пішэце аб фактах цікавых, аб тым што баліць нашаму селяніну,—скарыстаем.

**Грам. Кісламу Ігнату з Запольля.** Каб залажыць бібліятэку, то ўпярод зарганізуйце Гурток Т-ва Белар. Школы і тады пры Гуртку адчыніце бібліятэку паводле інструкцыі. Бібліятэку Вам паможа зарганізаваць Галоўная Управа Т-ва Бел. Школы: кніжкі адпусьціць у крэдыт, калі трэйцюю частку ўнясеце адразу, а рэшту ў працягу году. Статут і інструкцыю Т-ва Белар. Школы Вам высылаем.



# КАТАЛЁГ

**Беларускае Кнігарні Беларускага Выдавецкага Таварыства ў Вільні, Вострабрамская вул. № 1.**

## II.—А. Поэзія (вершы, апавяданьні).

(Працяг).

44. **Л. Родзевіч.** Беларусь. Вільня, 1922 г. Ц. 30 гр.
45. **Г. Сянькевіч.** Бартэк Пераможнік. (Перак. з польскае мовы М. Краўцоў. Выд. Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1926 г. Ц. 80 гр.
46. **К. Сваяк.** Мая ліра. Выд. Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1924 г. Ц. 1.40 гр.
47. **А. Сумны.** Мае Коляды. Выд. **У.** Знамяроўскага. Вільня, 1920 г. Ц. 50 гр.
48. **Ciotka** (Alozja z Paškiewičaŭ Kiejrysawaja). Skrypka Biełaruskaja. Wyd. Łastoŭskaga. Wilnia, 1918 hod. C. 30 hr.
49. **Тарас Шаўчэнка.** Кацярына. Выд. Палачанін. Вільня. Ц. 40 гр.
50. **Ядвігін Ш.** Дзед Завала. Выд. „Нашае Хаты“. Вільня, 1910 г. Ц. 20 гр.
51. **Ядвігін Ш.** Бярозка. Выд. Б. Клецкіна. Вільня, 1923 г. Ц. 90 гр.
52. **Ядвігін Ш.** Васількі. Выд. Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1919 г. 1.50 гр.
53. **Jadwihin Š.** Uspaminy. C. 60 hr.
Выданьне „Лучынкі“ № 1. Менск. 1914 г.
54. **Розных аўтароў.** Apawiadańni i lehiendy wieršami. Wyd. Bieł. Wyd. T-wa. Wilnia, 1914 hod. Cana 1.20 hr.
55. Apokryf i inne nowelle. Nakładem I. Korwin-Piotrowskiego. Wilno, 1924 r. C. 50 gr.
56. **Розных аўтароў.** Першы Крок. Зборнік вершаў „Гуртка маладых беларускіх поэтаў у Латвіі“. Выд. Т-ва Белар. Выбаршч. Рыга, 1926 г. Ц. 2.70 гр.
57. Caławiek na wyšyni swajej hodnaści. Wyd. „Biełarusa“. 1915 h. C. 1 zł.
58. **Розных аўтароў.** Каляда. Сьвяточная кніжка для белар. дзетак. Выд. газ. „Беларускае Слова“ ў Горадні, 1920 г. Ц. 25 гр.
59. **Розных аўтароў.** „Тарас на Парнасе“. Выд. „Нашае Хаты“. Вільня, 1909 г. Ц. 25 гр.
60. **Розных аўтароў.** „Taras na Parnasie“. Nowaje pieraroblenaje wydańnie. Wyd. „Našaje Chaty“. Wilnia, 1909 h. C. 25 hr.
61. **Розных аўтароў.** Зборнік „Нашае Нівы № 1. Ц. 35 гр.
62. **Розных аўтароў.** Zbornik „Našaj Niwy“ № 2. C. 50 hr.
63. **J. Bylina.** Na bryźbie. Wyd. Bieł. Wyd. T-wa. Wilnia, 1924 h. C. 60 hr.

### Распрададзеныя.

64. **А. Гарун.** Матчын дар.
65. **Я. Колас.** Песьні жальбы.
66. **J. Koɫas.** Batrak. Jak Jurka zlakacieŭ.
67. **Я. Купала.** Жалейка, зборнік вершаў.
68. **J. Kupała.** Huślar, zbornik wieršaŭ.
69. **Я. Купала.** Адвечная песьня.
70. **Łastouski.** Niedaćwiety.
71. **Ciška Hartny.** Pieśni Pracy zmahańnia.
72. **А. Паўловіч.** Снапок. Зборнік вершаў.
73. **Цётка.** Скрыпка Беларуская.
74. **Цётка.** Маладая Беларусь. Сэрыя І-ая, сшыток І.
75. **Цётка.** Маладая Беларусь. Сэрыя І-ая, сшыток ІІ.
76. **Цётка.** Маладая Беларусь. Сэрыя І-ая, сшыток ІІІ.
77. **М. Багушэвіч.** Вянок.
78. **Z. Biadula.** Abrazki.
79. **Т. Гушча.** Апавяданьні.
80. **Т. Гушча.** Казкі жыцьця.
81. **Я. Колас.** Прапаў чалавек.
82. **Н. Leŭčyk.** Čyžyk biełaruski.
83. **А. Паўловіч.** Снапок.
84. **Сымон Рэўка.** Смык беларускі.
85. **Таўрус.** Аб чым шапацелі лісьця.
86. **Розных аўтароў.** Дэклямацыі.

(Працяг будзе).

Адказны-Рэдактар: **Т. Крачына.** Друкарня **Я. Левіна**, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**